МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№2 (130)
люты 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:

### СТУДЗЕНЬСКІЯ ПАДЗЕІ Ў ТБК

26 студзеня 2013 года адбылася чарговая імпрэза ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве, у часе якой узгадалі найбольш знакавыя юбілеі, што прыпалі на гэты месяц.

*Працяг на стар. 2*

### ВЫЙШЛІ “ЖАНРЫ” ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА

Кніга архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча “Жанры” (21-я ў серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны“) з'яўляецца своеасаблівым працягам яго папярэдніх даследаванняў, прысвечаных эміграцыйнай літаратуры.

*Працяг на стар. 3*

### У ІРКУЦКУ АДЗНАЧЫЛІ ГРАМНІЦЫ

Арганізатарам выступіла Рэгіянальная грамадская арганізацыя “Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага” пад кіраўніцтвам Алега Рудакова.

*Працяг на стар. 4*

### ПЕРАД ПОМНІКАМ. ПАМЯЦІ ЯНКІ КАБАНОВІЧА

25 лютага споўніўся год, як памёр Янка Кабановіч, сябра Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына“.

*Працяг на стар. 7*

ГУТАРКА

## “БАЦЬКАЎШЧЫНА” СКЛІКАЕ БЕЛАРУСАЎ НА ШОСТЫ З’ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ



З’езды беларусаў свету – значная падзея для беларусаў метраполіі і замежжа, яны закліканыя спрыяць яднанню нацыі, умацаванню сувязяў паміж беларусамі з розных краінаў, а таксама дапамагаць у вырашэнні агульных праблемаў.

МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” ладзіць з’езды беларусаў свету раз на чатыры гады, пачынаючы з 1993 года. Тады, на Першым з’ездзе, сабралася больш за тысячу чалавек – дэлегатаў з беларускіх асяродкаў замежжа і Беларусі. У першы раз Беларусь з набыццём незалежнасці так знакава на дзяржаўным і грамадскім узроўнях вітала сваю дыяспару. Сёлета – 20 гадоў той значнай падзеі, і гэта выдатная падстава, каб ацаніць здабыткі і страты апошніх гадоў, прааналізаваць гісторыю і сучаснасць беларускага замежжа, асэнсаваць гэты феномен. Мяркуецца, што сёлетняя сустрэча збярэ больш за 300 дэлегатаў з 20-ці краін свету.

Паводле рашэння Малой Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, Шосты з’езд беларусаў свету мае адбыцца **23–24 ліпеня** ў Мінску на тэму “Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці”.

Абраная тэма з’езду абумоўлена аб’ектыўнымі працэсамі, якія адбываюцца ў сучасным свеце, калі назіраецца ўзмацненне працэсаў глабалізацыі, калі ўзаемазалежнасць і ўзаемныя ўплывы розных культур нараджаюць новы выгляд свету, новы светапогляд ягоных жыхароў і новыя магчымасці. У гэты час, калі міграцыйныя працэсы робяцца ўсё больш актыўнымі, значна павялічваецца значэнне нацыянальных дыяспараў.

У той жа час, у новых умовах беларускія дыяспары сутыкаюцца і з праблемамі размывання нацыянальнай ідэнтычнасці, касмапалітызму значнай часткі новых эмігрантаў, змяншэння цікавасці да нацыянальнай дзейнасці сярод моладзі, а таксама з пытаннем адэкватнага вызначэння далёкасяжных мэтаў існавання беларускіх арганізацыяў.

Гэтыя і іншыя праблемы, таксама як і новыя формы актыўнасці асяродкаў, іх сувязяў з метраполіяй вартыя адмысловага асэнсавання і абмеркавання на грамадскім і дзяржаўных узроўнях.

У межах з’езду прадугледжана праца трох секцый:

1. Магчымасці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці.
2. “Новая” і “старая” іміграцыі: супраца на карысць нацыянальнага развіцця.
3. Культурная спадчына беларускага замежжа.

На згаданым пасяджэнні Малой Рады 21 лютага абраны Арганізацыйны камітэт па правядзенні з’езду і працоўная група па яго падрыхтоўцы.

Сустаршынямі арганізацыйнага камітэту па падрыхтоўцы з’езду абраныя:

- Радзім Гарэцкі (Беларусь),
- Алена Макоўская (Беларусь),
- Хведар Нюнька (Літва),
- Алег Рудакоў (Расія),
- Ніна Шыдлоўская (Беларусь).

Створана Рабочая група па падрыхтоўцы з’езду, якую ачоліла Ніна Шыдлоўская.

Рада вызначыла таксама нормы прадстаўніцтва на з’езд ад суполак беларусаў замежжа і Беларусі.

Інфармацыя пра далейшую падрыхтоўку да Шостага з’езду беларусаў свету будзе змяшчацца на сайце МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” zbsb.org.

*Інфармацыйны цэнтр*
*“МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“*

*На здымку: Алена Макоўская прамаўляе на Пятым з'ездзе беларусаў свету*

# СТУДЗЕНЬСКІЯ ПАДЗЕІ Ў ТБК

26 студзеня 2013 года адбылася чарговая імпрэза ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве, у часе якой узгадалі найбольш знакавыя юбілеі, што прыпалі на гэты месяц.

Леакадзія Мілаш выступіла з дакладам пра творчасць беларускай паэткі Канстанцыі Буйло, якая нарадзілася ў Вільні. Свае першыя вершы Канстанцыя друкавала ў газеце "Наша ніва". У 1914 г. у Вільні выйшла яе першая кніга вершаў "Курганная кветка". З яе творчасці найбольш вядомы верш "Люблю наш край, старонку гэту…".

У студзені споўнілася 10 гадоў з моманту трагічнай гібелі лідара гурта "Песняры" Уладзіміра Мулявіна. Падрабязны даклад аб яго жыцці і дзейнасці падрыхтаваў сябра Рады ТБК Валеры Радзюкевіч. Сёння можна шмат дыскутаваць аб фігуры У.Мулявіна, але, бясспрэчна, застанецца яго заслуга: ён, рускі паводле паходжання, падняў беларускую песню да ўсесаюзнага ўзроўню, а тым самым зрабіў Беларусь вядомай на постсамуністычнай прасторы.

У студзені споўнілася 75 гадоў з дня расстрэлу аднаго з найвялікшых сыноў беларускай зямлі Вацлава Ластоўскага. З дакладам аб жыцці і дзейнасці Вацлава Ластоўскага выступіў старшыня ТБК Хведар Нюнька. Ластоўскі стаяў ля вытокаў стварэння БНР, можна нават назваць, быў першым афіцыйным беларускім гісторыкам. У тых крывавжэрных вірах яму даводзілася рабіць няпросты выбар. І тое, што нам тады не ўдалося адстаяць незалежнасць свае Бацькаўшчыны, прывяло да таго, што лёс такіх асобаў, як Ластоўскі, стаў трагічным. Ягоныя хістанні і падтрымка літоўскага боку – сведчанне складанасці арыентавання ў той сітуацыі, а таксама вялікай веры ў тое, што ўсё ж такі можна будзе аднавіць незалежнасць Беларусі.



21 студзеня споўнілася 195 гадоў з дня нараджэння Адама Кіркора – аднаго з найбольш вядомых даследчыкаў Беларусі ў XIX ст. Дзякуючы такім асобам, мы сёння ведаем, якой была Беларусь у XIX ст.

У студзені споўнілася 70 гадоў з дня трагічнай гібелі дзеяча беларускай грэка-каталіцкай царквы экзарха Антона Неманцэвіча. Ён стаяў ля вытокаў адраджэння па-варварску знішчанай у 1839 годзе нацыянальнай беларускай царквы. Пасля яе знішчэння і пачалася русіфікацыя нашых земляў. Экзарх Антон Неманцэвіч атрымаў сан святара ў 1915 годзе. Служыў у розных касцёлах Расійскай імперыі. Прапагандаваў сярод праваслаўнага насельніцтва Санкт-Пецярбурга ідэю аб'яднання цэркваў. Неаднаразова быў арыштаваны. У 1925 г. па абмене палітвязнямі паміж СССР і Польшчай быў перададзены Польшчы. Вучыўся ў Рыме. У 1927 г. абараніў доктарскую дысертацыю. Служыў на розных уніяцкіх пляцоўках, а таксама выкладаў у шматлікіх рэлігійных навучальных установах Польшчы. З верасня 1939 г. узначаліў Беларускі Экзархат Украінскай грэка-каталіцкай мітраполіі. У 1940 г. мітрапалітам Шаптыцкім прызначаны экзархам Беларускага грэка-каталіцкага экзархата. Увёў беларускую мову як афіцыйную ў дзейнасці экзархата. Арыштаваны немцамі ў канцы ліпеня – пачатку жніўня 1942 г. Памёр у турме ад сыпнога тыфу 6 студзеня 1943 г.

Артур Юдыцкі распавёў пра пачынальніка беларускай прозы пісьменніка Ядвігіна Ш., лёс якога быў цесна звязаны з Вільняй. Належыць адзначыць, што і пахаваны ён у Вільні, на могілках Росы.

Сябра Рады ТБК Крыстына Балаховіч распавяла пра сустрэчу мастакоў у польскай галерэі "Z nad Wilii".

На мерапрыемствах прысутнічала жонка вядомага віленскага беларускага мастака Уладзіміра Кузменкі. Заканчваючы імпрэзу, яна сказала колькі слоў пра свайго спачылага мужа.

Падчас імпрэзы ўзгадалі і аб 150 гадавіне з дня пачатку студзеньскага паўстання 1863-1864 гг. Можна адзначыць, што менавіта гэтае паўстанне дапамагло беларусам зрабіцца нацыяй.

*Паводле Андруся Старавойтава і Алеся Адамковіча*

# У ПРАЗЕ АДБЫЎСЯ СХОД БЕЛАРУСКІХ АБ'ЯДНАННЯЎ ЕЎРОПЫ

Дзесяць беларускіх арганізацыяў з Польшчы, Чэхіі, Эстоніі, Бельгіі, Швейцарыі, Літвы сабраліся ў Празе, каб скаардынаваць сваю дзейнасць.

Удзел у Сходзе беларускіх аб'яднанняў Еўропы бралі дзесяць арганізацыяў з розных еўрапейскіх краінаў: Беларускі дом у Варшаве, "Грамадзянская Беларусь" (Чэхія), "Чалавек у нядолі" (Чэхія), "Пагоня" (Прага), "Дом аб'яднанай Беларусі" (Вільня), "Трэці Шлях" (Эстонія), Асацыяцыя беларусаў Швейцарыі, "Офіс беларускай палітычнай эміграцыі" (Антверпен), "Наш Дом", Суполка імя Францішка Скарыны (Прага).

Арганізатарам выступіла "Асацыяцыя за мадэрнізацыю" (Прага).

Акрамя іншага, удзельнікі сустрэчы дамовіліся звярнуцца да міністэрстваў замежных справаў краінаў Еўрасаюза з прапановай скасаваць плату і спрасціць



працэдуру атрымання шэнгенскіх візаў для ўсіх катэгорыяў грамадзянаў Беларусі.

Таксама было вырашана стварыць адзіны агульны сайт для беларускіх арганізацыяў Еўропы. З канкрэтных ініцыятываў дамовіліся зладзіць пікеты ля офісаў спонсараў Міжнароднай федэрацыі хакею, правесці летнік з вывучэннем беларускай мовы, падрыхтаваць да 26 красавіка выставу фотаздымкаў, прысвечаных чарнобыльскай катастрофе.

*"Радыё Свабода"*

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА Ў ТАРОНТА

16 лютага 2013 года ў памяшканні Беларускага грамадска-рэлігійнага цэнтра Таронта адбылася вечарына беларускай лірыкі, прысвечаная Дню закаханых.

Імпрэза была арганізаваная Згуртаваннем беларусаў Канады. Са сцэны гучалі вершы і песні на вершы Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Ларысы Геніюш, Рыгора Барадуліна, Яўгеніі Янішчыц, Уладзіміра Някляева, Генадзя Бураўкіна.

Госцяй вечарыны была беларуская пісьменніца і паэтка Вольга Іпатава, якая прачытала некалькі сваіх лірычных вершаў розных гадоў. Пасля заканчэння "афіцыйнай" часткі гледачы таксама атрымалі магчымасць выступіць з вершам і песнямі.

Узрост выступоўцаў вагаўся ад 10 да 80 гадоў.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## ВЫЙШЛІ “ЖАНРЫ” ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА

Кніга архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча “Жанры” (21-я ў серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны“) з’яўляецца своеасаблівым працягам яго папярэдніх даследаванняў, прысвечаных эміграцыйнай літаратуры.

“Усё, што не проза, тое вершы, а ўсё, што не вершы, тое проза”, цешыўся мальераўскі Журдэн. Падобна яму, большасць даследчыкаў эміграцыйнай (дый не толькі) літаратуры пішуць выключна пра паэзію ці прозу. Насамрэч літаратура і звязаныя з ёю сюжэты нашмат цікавейшыя, каларытнейшыя. Сабраныя пад адную вокладку ў гэтай кнізе артыкулы — як друкаваныя раней, гэтак і новыя — працягваюць тэму жанравай разнастайнасці беларускай літаратуры, у першую чаргу эміграцыйнай. Да абазначаных раней гісторыка-міфалагічнай прозы, мемуарыстыкі (у тым ліку некралогаў як пасмяротных успамінаў), драматургіі, эпісталярыуму далучаюцца травелог, пераклад, біяграфія, фельетон і літаратурная крытыка.

Паколькі заяўленыя тэмы тэкстам артыкулаў аніяк не вычэрпваюцца, асаблівая ўвага нададзеная бібліяграфіі: у аглядных раздзелах — такіх, як травелог і пераклады, яна падаецца ў спасылках; у раздзелах, прысвечаных асобным сатырычным і гумарыстычным друкам і творам ды літаратурнай крытыцы, яна пададзеная асобна напрыканцы. Чытач мусіць падрыхтавацца да значнай колькасці цытатаў, што выклікана самім характарам матэрыялу: ці то архіўным, які ўпершыню ўводзіцца ва ўжытак, ці то выдрукаваным у эміграцыйных перыёдыках і кнігах, якія праз сваю незахаванасць, несабранасць ды рэдкасць не дазваляюць проста адаслаць да нумара або старонкі пэўнага выдання.




Лявон Юрэвіч “Жанры” : 528 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 21).

Рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі.

Выдавецтва “Кнігазбор”.

На вокладцы выкарыстаны здымак, зроблены Янам Булгакам. Арыгінал здымка захоўваецца ў калекцыі БІНіМа.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“*

## АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ У СВАЁЙ НОВАЙ КНІЗЕ АПІСАЎ БАРАЦЬБУ ЗА БЕЛАРУСЬ У 1918-1921

Сядзіба ТБМ не змясціла ў сабе ўсіх ахвотных папрысутнічаць на прэзентацыі кнігі сябра Вялікай Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“ гісторыка Анатоля Грыцкевіча “Выбранае“, што адбылася 30 студзеня, напярэдадні дня народзінаў аўтара, якому споўнілася 84 гады 31 студзеня.

Як адзначана ў самой кнізе: ”Гэтая кніга разлічана на самыя шырокія колы чытачоў, якім пэўна мала што вядома аб перыпетыях вайны паміж Савецкай Расіяй і Польшчай 1919–1920 гадоў. Аўтары савецкай гісторыі заўсёды вызначалі гэтую вайну як “паход Антанты”, нягледзячы на тое, што рэальная барацьба адбывалася за ўсталяванне новых межаў паміж Расіяй і Польшчай. Абедзве дзяржавы прэтэндавалі на тэрыторыю Беларусі і Украіны”.



”Кніга, якую я прэзентую сёння, – гэта выклад гісторыі 1918—1921 гг. у Беларусі. Прызнацца, нашыя беларускія гісторыкі, калі і пісалі пра гэтыя гады раней, то пісалі з маскоўскага пункту гледжання. Я паспрабаваў паглядзець на тыя падзеі з нашага боку і імкнуўся быць аб’ектыўным, — распавядае пра сваю кнігу аўтар. — Расійскі бок піша пра адны перамогі. Куды ні паглядзі, паўсюль яны пераможцы“, — жартаваў ён.

У кнізе адлюстравана і гісторыя барацьбы за Беларусь, і гісторыя БНР, і польскі нацыянальны рух у Беларусі, і адносіны паміж БНР і Літвой, а таксама вялікая колькасць гістарычных падзей, якія тычыліся грамадзянскай вайны ў Расіі.

*Паводле “Нашай Нівы“*

## ПАСОЛ ФРАНЦЫІ НАПІСАЎ КНІГУ ПРА ІКОНЫ БЕЛАРУСІ

Уступы да выдання напісалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Французскі амбасадар Мішэль Рэнеры – каталік. Амаль кожны дзень ён бярэ ўдзел у імшы ў мінскім архікафедральным касцёле. Але ў сваю кнігу ён уключыў гісторыі не толькі каталіцкіх святынь, але і праваслаўных ікон.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падчас прэзентацыі кнігі, якая ладзілася ў пасольстве Францыі ў Мінску, адзначыў, што гэта “з’яўляецца яшчэ адным пацвярджэннем добрых адносін паміж гэтымі веравызнаннямі, добрага міжканфесійнага клімату ў Беларусі”.

*“Народная Воля“*

## ПЕЦЯРБУРГСКІ БЕЛАРУС МІКОЛА НІКАЛАЕЎ

Гэта трэба мець талент – не жыць у Беларусі з 1970-х і зрабіць так, каб на радзіме пра цябе ведалі. Каб і не падазравалі многія, што насамрэч ты даўным-даўно жывеш у іншай краіне. І з’язджаў жа ты адсюль не якойсьці супервядомай асобай – проста чалавекам, які хацеў праводзіць раскопкі.

Міколу Нікалаева прыемна ведаць хаця б проста як інтэлігента – выключна эрудыраванага, з прыгожай беларускай мовай, выдатным пачуццём гумару і шляхетнай прасталінейнасцю. Чалавек, які не баіцца сказаць у вочы міністру культуры, што нягожа даваць ордэн Скарыны (найвышэйшую узнагароду краіны) Філіпу Кіркорaву, бо той міністр ордэн Філіпу Кіркорaву і чапляў. Калі ж хто абазнаны яшчэ і ў навуковай дзейнасці Нікалаева, то дзень знаёмства з гэтым чалавекам трэба дакладна недзе пазначыць у календары ці асабістым дзённіку.

Мікола Нікалаеў ужо многія гады працуе ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы. І працуе не абы-як, калі ўспомніць, што ў гэтай адной з найгалоўнейшых устаноў культуры Расіі ён займае пасаду загадчыка аддзела рэдкіх кніг. Аднак сваёй дзейнасцю ён чымсьці нагадвае засланага казачка – умела скарыстоўвае даступны яму кніжны фонд, каб актыўна вяртаць яго беларускую частку радзіме.

*Гутарку журналісткі “Брэсцкага кур’ера” з Міколам Нікалаевым чытайце на сайце zbsb.by*

# ГОДНЫ АДКАЗ ІРКУЦКАГА ТАВАРЫСТВА

Распачаты летась неабгрунтаваны пераслед Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага займеў працяг.

У канцы снежня 2012 года з пракуратуры г. Іркуцка на адрас "Іркуцкага таварыства Беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага" (ІТБК) прыйшоў ліст пад назвай "Прадстаўленне аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства, аб супрацьдзеянні экстрэмісцкай дзейнасці".

Нагадаем, што летась пасля таго, як Аляксей Кухта, які з'яўляўся шараговым сябрам Таварыства, быў абвінавачаны паводле артыкула "Узбуджэнне нянавісці альбо варожасці, а таксама знявага чалавечай годнасці" за фота і відэа, якія ён выстаўляў на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы, у кватэру старшыні ІТБК Алега Рудакова, а таксама ў сядзібу гэтай арганізацыі ўварваліся супрацоўнікі Следчага ўпраўлення Следчага камітэта Расіі па Іркуцкай вобласці з падтрымкай СОБРа і спецназа. Іскавыя заявы ІТБК аб абароне дзелавой рэпутацыі арганізацыі ў гарадскім і абласным судах задаволеныя не былі.

У пракурорскім "Прадстаўленні" сярод іншага зазначалася: "У памяшканні [ІТБК] па пазначаным адрасе органамі папярэдняга следства быў праведзены вобшук, падчас якога была знойдзеная і канфіскаваная паліграфічная прадукцыя – пяць каляндарыкаў з выявамі лідараў беларускіх нацыяналістаў-калабарацыяністаў у адпаведнай форме". На ўвазе меліся Алесь Гарун, Булак-Булаховіч, Кастусь Езавітаў, Франц Кушаль і Іван Гелда.

У лісце, складзеным ад імя ІТБК у адказ на "Прадстаўленне" пракуратуры, Алег Рудакоў, абапіраючыся на Гістарычную даведку, падрыхтаваную кандыдатам гістарычных навук А.В. Пашкевічам, абгрунтавана давёў пра каштоўнасць згаданых асобаў для беларускай нацыі. У лісце таксама падкрэслена, што вышэй згаданыя пяць каляндарыкаў, якія з'яўляюцца асабістай уласнасцю Алега Рудакова, былі размешчаныя на ўнутраным баку дзвярэй яго асабістага кабінета ў агульным шэрагу сярод 97 іншых каляндарыкаў, прысвечаных падзеям і персонам беларускай гісторыі, то бок не вылучаліся адмыслова сярод іншых, і ў сувязі з гэтым кантэкстам пра асобную "прапаганду" асобнага перыяду гісторыі Беларусі не магло ісці і гаворкі.

Цалкам азнаёміцца з лістом з Пракуратуры г. Іркуцка і адказам на яго ІТБК можна на сайце zbsb.by

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" паводле Алега Рудакова*

# У ІРКУЦКУ АДЗНАЧЫЛІ ГРАМНІЦЫ

2 лютага беларусы Іркуцка адзначылі старажытнае свята Грамніцы. Арганізатарам выступіла Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага" пад кіраўніцтвам Алега Рудакова. "На ўрачыстасці сабралася больш за 60 чалавек. Шмат хто прыйшоў з дзецьмі. Запальвалі рытуальны агонь, спявалі, вадзілі карагоды, гулялі ў зімовыя народныя беларускія гульні, танчылі, елі сала, дранікі, пірагі хатнія і кучу іншых прысмакаў. Атрымалася выдатна", – распавёў Алег Рудакоў.

Свята Грамніцы – адзіны зімовы дзень, калі можа здарыцца навальніца, якая суправаджаецца громам. Гэтае свята прайшло праз стагоддзі яшчэ з паганскіх часоў, калі ў гэты дзень прынята было прыносіць ахвяру богу Перуну, або Грамоўніку.

Грамніцы маюць дзве даты згодна з каталіцкім і праваслаўным царкоўным календаром. Каталікі адзначаюць Грамніцы 2 лютага, праваслаўныя – 15 лютага. Акрамя таго, свята супадае з царкоўным святам Стрэчання Гасподняга. У народзе Грамніцы атрымалі дадатковае значэнне сустрэчы зімы і вясны.

Важнае значэнне мелі грамнічныя свечкі, якія так і называюцца – грамніцы. Часцей за ўсё гэтыя свечкі рабіліся самастойна. Грамніцамі яны маглі называцца толькі пасля асвячэння ў царкве ці касцёле. Затым грамніцы набылі сакральнае значэнне – іх пачалі ўжываць на працягу ўсяго года ў розных абрадах і рытуалах. Грамніцы захоўваліся ў доме за абразамі і запальваліся пры любых падзеях. Сплавы грамніцаў насілі як амулеты і нават давалі ў якасці лекаў хворым. Характэрна, што грамнічную свечку нельга было нікому пазычаць.

Дзень Грамніцы мае шмат прыметаў, якія заснoўваюцца на сустрэчы зімы з вясной: як сустрэча пройдзе, такая і вясна будзе. Аднак прыкметы прадказвалі не толькі надвор'е, але і ўраджайнасць:

- Моцны мароз - хутка растане снег на палях;

- Пацяпленне - да дрэннага ўраджаю.

*Паводле "Беларусаў Пецярбурга"*

# ПОЛЬСКАЕ МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ ЎЗНАГАРОДЗІЛА НАТАЛЛЮ ГЕРАСІМЮК

Залатую адзнаку "За заслугі ў пенітэнцыярнай працы" ад Міністэрства юстыцыі Польшчы атрымала сябра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", журналістка Беларускага Радыё Рацыя Наталля Герасімюк. Яна атрымала ўзнагароду за валанцёрскую працу са зняволенымі ў следчым арышце ў Гайнаўцы.

Цягам трох гадоў вязні вучыліся асновам працы на радыё і самі стваралі радыёперадачы, а таксама запісвалі казкі для сваіх дзяцей. Працаваць з вязнямі адначасова лёгка і цяжка, адзначыла Наталля Герасімюк. Паводле яе словаў, узнагарода для яе была нечаканасцю.

Як адзначыла Наталля Герасімюк, супрацоўніцтва са следчымі органамі у Гайнаўцы працягнецца. Наперадзе запіс казак у выкананні вязняў пабеларуску ды іншыя праекты.

*Паводле Валянціны Лаеўскай, "Беларускае Радыё Рацыя"*

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ад усяго сэрца віншуе спадарыню Наталлю і зычыць далейшых поспехаў!**

# ТАМАШ СУЛІМА АБРАНЫ СТАРШЫНЁМ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Сакратар "Часопіса" Тамаш Суліма стаў новым старшынёй Асацыяцыі беларускіх журналістаў у Польшчы. У час паседжання, у якім удзельнічалі прадстаўнікі беларускіх СМІ, выбрана была таксама Галоўная рада. Новы старшыня, Тамаш Суліма, ужо аб'явіў планы на будучую дзейнасць Асацыяцыі беларускіх журналістаў у Польшчы. "У кожным наступным годзе, думаю, трэба нам паставіць як мінімум такую задачу – нейкае выдавецтва, нейкі праект. І таксама хацелася б, каб асацыяцыя была такой установай, якая аб'ядноўвае ўсіх беларускіх журналістаў на Беласточчыне, у Польшчы".

Асацыяцыя беларускіх журналістаў у Польшчы з'яўляецца выдаўцом "Часопіса", які выходзіць штомесяц. Тамаш Суліма замяніў на пасадзе Аляксандра Максымюка.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# ПЕСНЯ ПЕСНЯРУ

Так называўся вечар памяці, прысвечаны народнаму артысту Беларусі Уладзіміру Мулявіну. Галоўнымі яго арганізатарамі выступілі старшыня камітэта грамадскай арганізацыі ветэранаў Санкт-Пецярбурга па міжнародным супрацоўніцтве Аляксандр Станкевіч і артысты групы ”Рэтра-Хіт”.

Мерапрыемства праходзіла з аншлагам у культурным цэнтры ”Траецкі“, што ў Неўскім раёне Санкт-Пецярбурга.



Гледачоў, што сабраліся ў канцэртнай зале, віталі першы сакратар аддзялення пасольства Рэспублікі Беларусь у Санкт-Пецярбургу Святлана Бейнаровіч, прадстаўнік грамадскай арганізацыі ”Расійска-беларускае братэрства“ Віктар Аляксееў і старшыня беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі Санкт-Пецярбурга Мікалай Русакевіч.

Падчас выступу група ”Рэтра-Хіт“ выконвала песні з рэпертуару ансамбля ”Песняры“ і творы расійскіх і беларускіх аўтараў. Канцэрт суправаджаўся відэашэрагам здымкаў пра Мулявіна і яго калегаў па творчым цэху. Таксама быў прадэманстраваны відэафільм пра песняра.

*Паводле Васіля Шалака*

# ”КВЕТКА БАЙКАЛА-2013“

Дзявяты год запар праводзіцца конкурс эстэтыкі “Кветка Байкала“. Але толькі другі год як гэты конкурс пачаў насіць статус міжнацыянальнага. Да гэтага 7 гадоў “Кветкай Байкала“ абіралася выключна бурацкая дзяўчына. Потым Дзяржаўная ўстанова “Цэнтр па захаванні бурацкага этнасу“ была перайменаваная ў Іркуцкую абласную дзяржаўную бюджэтную ўстанову культуры “Цэнтр культуры карэнных народаў Прыбайкалля“, і ў сувязі з гэтым з 2012 года праводзіцца міжнацыянальны абласны конкурс эстэтыкі.

Адразу хочацца адзначыць, што летась гэты конкурс выйграла наша беларуска Вольга Тугарынава. Сёлета перамагла татарка Юля Зарыпава. З чым мы яе і віншуем!

Але мне б хацелася расказаць пра нашу “Кветку Байкала-2013“ – Свету Елікаву.

Шчыра кажучы, мы ўсе за яе вельмі хваляваліся. Канкурэнткі ў Светы былі адна лепшая за другую. Але Света аказалася баявой і з агеньчыкам! Дапамагалі і падтрымлівалі Свету перш за ўсё яе родныя. Яны самі і шылі касцюмы, і рыхтавалі візітоўкі, складалі вершы, прадумвалі вобразы. Вынік быў ашаламляльным. Святлана выступіла цудоўна.

Ужо падчас першага конкурсу – “Візітнай карткі“ – Света зрабіла добрую заяўку. Яна выйшла з кветкай і як быццам выконваючы нейкую працу, у вершаванай форме расказала пра сябе і сваю сям'ю. У другім конкурсе – “Творчым” – Света выйшла ў касцюме “Купалінкі“ з вянком на галаве і выканала ўзнёслы купальскі танец. Гэта быў сапраўды кавалачак нашага абраду ў дзеянні. Пасля гэтага танцу зала проста выбухнула апладысментамі!

Конкурс “Інтэлектуальны” наогул сёлета быў дзіўны. Калі ў мінулым годзе пытанні, якія нечакана задаваліся дзяўчатам, больш былі з гумарам і сапраўды патрабавалі кемлівасці, то ў гэтым годзе пытанні былі канкрэтныя. І тут альбо ведаеш, альбо не. Шчыра кажучы, седзячы ў зале, мы здзіўляліся: і хто “дадумаўся“ задаваць такія пытанні?

Затое нам спадабаўся конкурс “Рукадзелле”, дзе кожная дзяўчына-канкурсантка, прадставіла сваімі рукамі зроблены твор мастацтва. Света паказала выдатную працу з бісеру – “пацеркі” ў традыцыйнай бел-чырвона-белай каляровай гаме. Такія пацеркі насілі нашы продкі ў старыя часы, хоць сярод нашай моладзі гэтая традыцыя таксама робіцца зноў папулярнай.

Ну, і апошні конкурс – “Дэфіле ў вячэрніх сукенках” – па-мойму, наогул усіх аб'яднаў. Кожная дзяўчына была проста прыгожая ў сваім уборы.

І ўсё ж конкурс ёсць конкурс. Свеце перамагчы не ўдалося. Але як на мяне, дык гэта і не галоўнае. Галоўнае, што на гэтым свяце была годна прадстаўлена беларуская культура. Седзячы ў зале, мы ганарыліся нашай “Купалінкай”!

Таксама хочацца падзякаваць і ансамблю аўтэнтычнай песні “Крывічы“, які браў удзел у канцэртнай частцы мерапрыемства і выканаў дзве беларускія народныя песні. Адна з іх – гумарыстычная “Чачотачка” – стала прэм'ерай. Што ж, нашы “Крывічы“ ўжо сталі вядомым брэндам. Яны ўдасканальваюць сваё майстэрства і заўсёды радуюць гледачоў.

Вось так прайшоў конкурс эстэтыкі “Кветка Байкала-2013”. Будзем чакаць наступнага!

*Паводле Алега Рудакова*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў сакавіку: **Міколу Люцко, Алеся Мазура, Аляксея Марачкіна, Лідзію Савік** (Беларусь), **Іну Снарскую** (Украіна) і **Яўгена Мурашку** (Германія). Зычым заўсёднай радасці, натхнення, нязгаснага аптымізму, моцнага здароўя і дабрабыту!

17 сакавіка юбілей святкуе сябра Вялікай Рады **Юрка Станкевіч** (Чэхія).



Шчыра віншуем шаноўнага юбіляра са святам, зычым добрага здароўя, моцы духу, святла ў сэрцы і выдатнага настрою!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

АБВЕСТКА

# КАНЦЭРТ ПАМІДОРАВА Ў ПЕЦЯРБУРГУ

22 сакавіка ў клубе “Манхэтэн“ у Пецярбургу адбудзецца вялікі акустычны вечар. На адной сцэне выступяць легенда рускага року Аляксандр Чарнецкі і кароль беларускага року Аляксандр Памідораў. Арганізатарам выступае клуб “Беларусы Пецярбурга“.

Квіткі можна набыць у касах арт-клуб Манхэтэн, у музычнай краме “Кастл рок“ і праз Клуб “Беларусы Пецярбурга“. Тэл. арт-клуба Манхэтэн: 8-10-7-812-713-1945.

*Паводле “Беларусаў Пецярбурга“*

# САКРАТ ЯНОВІЧ (1936–2013)



17 лютага пасля працяглай хваробы памёр сябра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Сакрат Яновіч. Ён быў вядомым беларускім літаратарам, публіцыстам, перакладчыкам, грамадскім дзеячам, інтэлектуалам. Удзельнічаў у кіраванні Беларускім літаратурным аб'яднаннем "Белавежа", быў старшынёй згуртавання Villa Sokrates і адным са стваральнікаў аднайменнага фонду, якому ён перадаў свой дом. Сакрат Яновіч з'яўляўся ініцыятарам і арганізатарам міжнароднага літаратурна-навуковага мерапрыемства "Трыялог" у Крынках. Ён напісаў больш за 30 кніг, у ліку якіх – "Terra incognita: Беларусь", "Самасей" і "Сцяна". Творы Сакрата Яновіча перакладаліся на ангельскую, нямецкую, італьянскую мовы. Апошнія гады жыцця Сакрат Яновіч вёў дзённікі, дзе натаваў падзеі, што адбываліся вакол, каб захаваць жыццёвыя факты для нашчадкаў.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім блізкім і родным Сакрата Яновіча, усім, хто яго ведаў і шанаваў. Вечная яму памяць!

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# У КРЫНКАХ РАЗВІТАЛІСЯ З САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ

У Крынках 21 лютага развіталіся з выбітным беларускім і польскім пісьменнікам, грамадскім дзеячом, інтэлектуалам Сакратам Яновічам.

Правесці ў апошні шлях майстра слова і шчырага беларуса, акрамя родных, прыйшлі прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці з усяго Падляшша, прадстаўнікі органаў улады, польскіх грамадскіх арганізацый, а таксама сябры і суседзі.

Старшыня Фонду царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы Мікалай Бушка пагаджаецца з меркаваннем, што Сакрат – гэта цэлая эпоха, аднак кажа, што гэтая эпоха ўсё ж працягваецца: "Яго эпоха працягваецца, бо ён пакінуў такую вялікую культурную спадчыну ў літаратурнай, а таксама ў інтэлектуальнай сферы. Перадусім гэта памяць пра сябе, як выдатны чалавек, вялікі аўтарытэт, вялікі беларус. Я думаю, што гэтая эпоха дзякуючы яму працягваецца".

Бурмістр Багуслаў Панасюк ужо сёння разам з сябрамі Сакрата Яновіча думае пра тое, як захаваць у Крынках памяць пра выбітнага земляка: "Мы ўжо гаварылі з Юркам Хмялеўскім, з прафесарам Тарасэвічам, як захаваць пра яго памяць у Крынках. Гаварылі пра тое, каб назваць вуліцу, пляц, усталяваць бюст ці помнік у цэнтры Крынак, каб жыхары памяталі пра Сакрата, а турысты, якія прыязджаюць, ведалі, што тут нарадзіўся, жыў і памёр вялікі чалавек, літаратар, філосаф Сакрат Яновіч".

"Сакрат Яновіч бараніў нас, беларусаў, сваім словам, сваімі ведамі", – сказаў у час развітання старшыня Управы Радыё Рацыя, сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і галоўны рэдактар тыднёвіка "Ніва" Яўген Вапа: "У яго, як у рыцара, шчытом была родная мова, а мячом было роднае слова. За гэта дзякуем. Ён вучыў нас, маладзейшых, паказваў праўду, што існуе бел-чырвона-белы сцяг, існуе герб "Пагоня". Дзякуем за тое, што нас адукаваў".

Стрыечны брат Сакрата Яновіча – Юрэк Грыко – даўно жыве ў ЗША, але ў час прыездаў на радзіму заўсёды заходзіў да Сакрата.

У Прачысценскай царкве ў Крынках адслужылі паніхіду па Сакрату Яновічу, пасля чаго адбылося пахаванне на мясцовых праваслаўных могілках. Труна з целам памерлага была накрытая бел-чырвона-белым палотнішчам. Беларускія нацыянальныя сцягі з чорнымі стужкамі таксама луналі над жалобным шэсцем, у царкве і на могілках спявалі гімн "Магутны Божа".

*Яна Запольская,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# ПАМЯЦЬ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ І БУЛАК-БАЛАХОВІЧА ЎШАНАВАЛІ Ў ВАРШАВЕ



4 лютага, у дзень нараджэння Тадэвуша Касцюшкі – палітычнага і вайсковага дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША – сябры "Беларускай нацыянальнай памяці" ўсклалі кветкі да помніка славутаму ваяру ў Варшаве.

Паводле словаў старшыні "Беларускай нацыянальнай памяці" Анатоля Міхнаўца, Тадэвуш Касцюшка належыць да тых герояў, якія амаль забытыя ў Беларусі: "Сённяшнім уладам не выгадна памятаць пра яго. Так атрымоўваецца, што яго бюст стаіць у амерыканскай амбасадзе, а музей фінансуе польская амбасада. Беларускія ўлады чамусьці пра гэта забываюць, але памятаюць беларусы, беларуская моладзь, якія сёння прыйшлі да гэтага помніка".

Урачыстасці прымеркаваныя да ўгодкаў Тадэвуша Касцюшкі прайшлі на Берасцейшчыне ў Беларусі, а таксама ў Кракаве ў Польшчы, дзе знаходзіцца курган Касцюшкі.

Моладзь у Польшчы і Беларусі адзначыла таксама дзень нараджэння Станіслава Булак-Балаховіча.

У Варшаве беларускія студэнты павіншавалі з гэтым днём унука генерала, таксама Станіслава, – ён жыве ў Варшаве, і распаўсюдзілі адмыслова створаны з нагоды гэтай даты святочны плакат.

Паводле кіраўніка Беларускай Нацыянальнай Памяці Анатоля Міхнаўца, беларусы ўшаноўваюць памяць генерала акрамя яго магілы – ля мемарыяльнай шыльды, што ўсталяваная непадалёк месца, дзе ён быў забіты, а таксама на месцы барыкадаў, дзе балахоўцы абаранялі Варшаву ад фашыстаў у 1939 годзе.

Адначасова з акцыямі ў Варшаве святкаванні адбываліся таксама ва Украіне і на Берасцейшчыне, дзе пахаваныя жаўнеры войска Балаховіча.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

# ПЕРАД ПОМНІКАМ. ПАМЯЦІ ЯНКІ КАБАНОВІЧА

25 лютага споўніўся год, як памёр Янка Кабановіч, сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", прадпрымальнік і мецэнат, які падтрымліваў беларускія суполкі ў замежжы, быў адным з фундатараў Першага з'езду беларусаў свету і вырабу копіі крыжа Еўфрасінні Полацкай.

У сваіх згадках з нагоды сумнай гадавіны Таццяна Казак, якая ў 1999-2008 гадах старшынявала ў Латвійскім таварыстве беларускай культуры "Світанак", піша: "Янка Кабановіч – з тых людзей, у адыход якіх у лепшы свет вельмі цяжка паверыць, з адыходам якіх вельмі цяжка змірыцца. Вось ужо мінуў год, як спадара Янкі няма з намі, а я дагэтуль вельмі часта лаўлю сябе на думцы, асабліва падчас нашых імпрэзаў, што вось ён павінен прыйсці ці патэлефанаваць. І толькі потым прыходзіць думка, што не, гэта немагчыма ўжо. Калі мы збіраліся ў беларускай школе на вечарыну, прысвечаную 130-м угодкам з дня нараджэння Якуба Коласа, мне здавалася, што вось зараз ён прыйдзе і пачуе, як мой ужо амаль пяцігадовы Міколка чытае верш "Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому". І неяк зусім нязвыкла было бачыць спадара Васіля Зайцава замест Янкі Кабановіча. (Няхай прабачыць мяне спадар Зайцаў, які пераняў пасля спадара Янкі эстафету дапамогі школе.) Але нічога мы, на жаль, не можам



змяніць, толькі маліцца за ягоную несмяротную шчырую беларускую душу. Таму кожны раз, калі ў нядзелю я заказваю ў царкве паніхіду па памерлым, згадваю побач з імёнамі сваіх родных і ягонае імя".

Не верыцца, што сёлета, на Шостым з'ездзе беларусаў свету, Янкі Кабановіча ўжо не будзе з намі. Ён сапраўды шмат зрабіў для беларускай супольнасці: падтрымліваў Латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак", фундаваў Рыжскую Беларускую асноўную школу, Латвійскі фонд беларускай культуры – усяго не пералічыць. Дапамагаў ён са шчырай душой, не шукаючы ўзамен ніякай славы. Сыход Янкі Кабановіча – вялікая страта для беларускай супольнасці, але тым больш трывалай будзе нашая памяць пра яго. І верш, напісаны Рыгорам Барадуліным да гадавіны з дня смерці гэтага выдатнага чалавека, толькі пацвярджае гэта.

**Услых**

Шукаў беларусаў па свеце
Упэўніць, дапамагчы.
Цяпер на балтыйскі бераг
У шэрых далонях хмараў
Прыносіць азяблы вецер
Сны з роднае стараны
І шэпча з ласкаю
Нешта наскае
Ужо тутэйшаму
Янку Кабановічу.

Неабыякавасць самотнасці закалыханай
Ціхне з пашанай,
Далягляд усхваляваны
Сасновячы.

*Рыгор Барадулін*
*20 лютага 2013 г.*

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ВАЛЯНЦІН ГРЫЦКЕВІЧ (1933-2013)



Памёр сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Валянцін Грыцкевіч.

Гэта здарылася 5 сакавіка. У канцы сакавіка Валянціну Грыцкевічу мусіла споўніцца 80 гадоў…

Валянцін Грыцкевіч быў адным з арганізатараў і нязменным старшынём Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу і, бясспрэчна, паспрыяў таму, каб у горадзе на Няве быў актыўны беларускі асяродак, які стала падтрымлівае кантакты з беларускімі суполкамі ва ўсім свеце.

Варта адзначыць, што сам Валянцін Пятровіч, а таксама сябры БГКТ бралі актыўны ўдзел у стварэнні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", і прадстаўнікі Таварыства ўдзельнічалі ва ўсіх З'ездах беларусаў свету і З'ездах беларускіх культурных таварystваў Балтыі.

Акрамя гэтага, Валянцін Грыцкевіч быў сябрам Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", сябрам Саюзу беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы, Міжнароднага ПЭН-цэнтру, ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, сябрам Расійскага геаграфічнага таварыства, Пецярбурскага таварыства гісторыкаў медыцыны, замежным сябрам Беларускага таварыства гісторыкаў медыцыны.

Валянцін Грыцкевіч нарадзіўся 30 сакавіка 1933 года ў Мінску, бацька быў настаўнікам, маці - медыкам. Ён атрымаў выдатную адукацыю: скончыў Інстытут замежных моваў (1955), Медыцынскі інстытут (1956), гістарычны факультэт БДУ (1957). Аб'ектам яго даследаванняў была гісторыя беларускай медыцыны, а таксама біяграфіі беларускай інтэлігенцыі ў замежжы.

Валянцін Грыцкевіч працаваў лекарам, старшым навуковым супрацоўнікам Ваенна-медыцынскага музея Мінабароны СССР, выкладчыкам гісторыі, быў дацэнтам кафедры музеязнаўства У Ленінградскім універсітэце культуры. Ён аўтар кніг "З факелам Гіпакрата", "Адысея наваградскай лекаркі: Саламея Русецкая", "Падарожжы нашых землякоў" і многіх іншых.

Прыносім шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім Валянціна Грыцкевіча, яго сябрам і калегам. Ад нас сышоў сапраўды выбітны і варты пашаны чалавек. Хай жыве памяць пра яго, хай жыве яго справа. Рай светлы яго душы!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# БЕЛАРУСЫ ПЕЦЯРБУРГА АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

24 лютага сябры клуба "Беларусы Пецярбурга" зладзілі сустрэчу, прымеркаваную да Дня роднай мовы. На сустрэчы прысутнічала 10 чалавек. З дакладам выступіла Кацярына Заітава. Яна расказала аб тым, як узнікала беларуская мова, нагадала аб славутых помніках беларускага пісьменства – перакладзенай Францыскам Скарынам Біблії і Статуце ВКЛ. Таксама яна распавяла аб тым, як развівалася мова ў XIX стагоддзі. Расказала Кацярына і аб хвалі беларусізацыі на пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя, а таксама аб наркамаўскай рэформе беларускай мовы 30-х гадоў, у выніку якой мова страціла шэраг сваіх адметнасцяў і стала больш падобная да расейскай.

Гаворка ішла і аб сучасным стане беларускай мовы. Кацярына нагадала аб захадах палітычнага кіраўніцтва краіны па развіцці і распаўсюджванні мовы ў беларускім грамадстве на пачатку 1990-х гадоў, а таксама аб тым, што адбывалася з мовай пасля перамены ўлады.

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі дадзеныя Беларускага статыстычнага камітэта аб сітуацыі з ужываннем беларускай і расейскай моваў у навучальных установах Беларусі. Усе адзначылі, што гэтыя дадзеныя не суцяшальныя. Беларуская мова амаль знікла з навучальных устаноў. І каб кардынальна змяніць сітуацыю, патрэбны адмысловыя намаганні палітычнага кіраўніцтва краіны. А пакуль беларусам варта збірацца разам і размаўляць між сабой па-беларуску.

Значны ўнёсак у размову ўнесла філолаг і актывістка клубу беларусаў Святлана Гаўрыліна. Яна дапоўніла даклад прыкладамі развіцця іншых моваў, блізкіх да беларускай. Так, чэшскую мову, як і беларускую, удалося адрадзіць пасля доўгіх гадоў забыцця. А вось наўгародскія і пскоўскія дыялекты старарускай мовы не здолелі, у адрозненне ад беларускай, развіцца ў самастойныя мовы.

Напрыканцы беларусы абмеркавалі планы для далейшых сустрэч. Былі выказаныя прапановы пачаць абменьвацца беларускімі кнігамі, зрабіць экскурсію па беларускіх мясцінах Пецярбурга. Таксама былі абмеркаваныя планы па правядзенні канцэрта Аляксандра Памідорава 23 сакавіка, а таксама па святкаванні Дня волі.

*Паводле "Беларусаў Пецярбурга"*

IN MEMORIAM

# РАМАН ВАЙНІЦКІ (1960-2013)



У Вільні 6 сакавіка знайшлі забітым старшыню Згуртавання беларускіх грамадскіх суполак Літвы і клуба "Сябрына", сябра Валікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Рамана Вайніцкага.

Пра смерць Вайніцкага паведаміла дырэктарка беларускай гімназіі ў Вільні Галіна Сівалава: "Раніцай яго знайшлі звязанага, замучанага ў падвале шматпавярховага дома, дзе ён жыў. Ён расказваў, што яму апошнім часам пагражалі, нават сядалі да яго ў аўто і пагражалі. Яго спачатку шукалі на працы, бо машына была каля дому, ключы ляжалі, а яго не было. Потым убачылі, што няма ключоў ад падвалу. Знайшлі яго дзеці".

Старшыня МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская кажа, што пасля таго, як Рамана Вайніцкага абралі старшынём Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый, актывізавалася супраца гэтай арганізацыі з Таварыствам беларускай культуры ў Літве.

"Гэтыя суполкі разам пачалі святкаваць Дні Волі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Раман Вайніцкі лічыў, што Беларусь у нас адна, і няма чаго яе дзяліць. Светлая яму памяць, і спачуванні родным і блізкім".

*Паводле "Радыё Свабода"*

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" прыносіць шчырыя спачуванні родным, блізкім, калегам і сябрам Рамана Вайніцкага. Светлая памяць!*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА САКАВІК 2013 ГОДА

1 сакавіка – 110 гадоў таму нарадзіўся Алесь Змагар (сапр. Аляксандр Яцэвіч; 1903–1995), удзельнік Слуцкага паўстання, літаратар, настаўнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Францыя і ЗША.

2 сакавіка – 90 гадоў таму ў Нью-Ёрку памёр Уладзіслаў Рыжы-Рыжскі (1923–1978), грамадскі і рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Бельгіі, Італіі, Іспаніі і ЗША.

8 сакавіка – 85 гадоў таму памёр Пётр Крачэўскі (1879–1928), грамадска-палітычны дзеяч, літаратар, гісторык, старшыня Рады БНР. Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе.

9 сакавіка – 60 гадоў таму ў Лювене (Бельгія) памёр Мікола Равенскі (1886–1953), кампазітар, фальклярыст, аўтар музыкі беларускага гімна "Магутны Божа", дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Бельгіі.

12 сакавіка – 50 гадоў таму, у 1963-м, у Гайнаўцы адкрыўся Беларускі музей (у 1990 г. у новым будынку адкрыўся як Беларускі этнаграфічны музей).

13 сакавіка – 70 гадоў таму памёр Васіль Захарка (1877–1943), грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР. Пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе.

16 сакавіка – 105 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Васіль Кендыш, грамадскі дзеяч, настаўнік, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

16 сакавіка – 10 гадоў таму, у 2003-м, у Мінску адбыўся Першы Усебеларускі сход інтэлігенцыі (больш за 600 чалавек). Створана Рада беларускай інтэлігенцыі.

22 сакавіка – 70 гадоў таму, у 1943-м, разам з жыхарамі спалена вёска Хатынь (142 чалавекі).

25 сакавіка – Дзень Волі.

26 сакавіка – 25 гадоў таму, у 1988-м, у Беластоку падчас тайнага святкавання ўгодкаў БНР сфарміраваны заснавальніцкі камітэт Беларускага Аб'яднання Студэнтаў (БАС).

27 сакавіка – 20 гадоў таму, у 1993-м, у Вільні на могілках Росы адкрыты помнік Івану і Антону Луцкевічам.

30 сакавіка – 45 гадоў таму, у 1968-м, у Перце (Аўстралія) адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага Народнага Дома.

30 сакавіка – 30 гадоў таму памерла Аўгіння Каранеўская (дзяв. Воўк-Левановіч; 1919–1983), настаўніца, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахаваная на могілках Роквуд у Сіднеі.

**Беларусы ў свеце**
№2(130), люты 2013
Падпісана ў друк 07.03.2013
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by
тэл./факс (+375 17) 200-70-27